ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 90 (1727) | Нядзеля, 11 лістапада 1962 года | Цана 4 кап.

**У ГЭТЫМ НУМАРЫ**






## КАЛІ ЛАСКА, ДАРАГІЯ БРАТЫ!

**ДА ДЗЁН ЧЭХАСЛАВАЦКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў БЕЛАРУСІ**

Калі мы збіраліся да старшыні Беларускага аддзялення Таварыства савецка-чэхаславацкай дружбы міністра вышэйшай, спецыяльнай сярэдняй і прафесіянальнай адукацыі БССР Міхаіла Васільевіча Дарашэвіча, каб пагутарыць аб будучых Днях чэхаславацкай культуры, нам прыгадаліся радкі беларускага паэта:

У слаўнай Празе, у
старажытным Градзе,
Не злічыш спраў даўнейшага
майстэрства:
Спічастых вежаў, што ўзляцелі
ў неба,
Разбяных дрэў, шумнейшых,
як у пушчы,
Чыгунных коней, што заржуць,
здаецца,
Людзей каменных з вуснамі
жывымі:
Спытайся толькі — вусны
зварухнуцца
І паплыве гарачая размова...

Так натхнёна выказвае паэт сваю пашану і сваё захапленне цудоўным майстэрствам адмысловых мастакоў, якія прымушаюць ззяць жывым бляскам шкло і надаюць непаўторнае хараство жалезу, якія ўмеюць ад сэрца спяваць і мужна змагацца за гонар айчыны... Увогуле кожны савецкі чалавек надзвычай шчыра захапляецца тым, што і як робяць нашы сябры з Чэхаславакіі. Мужны народ паэтаў і ўмельцаў, мастакоў і рабочых, салдат і аратых, — ён дарагі нам спрадвеку. І калі мы пачалі гутарку з Міхаілам Васільевічам, ён быццам бы падхапіў прачытаваныя вышэй радкі з верша і адразу прыгадаў мінулае: гісторыя захоўвае сапраўды шмат хвалюючага і цікавага пра дружбу славянскіх народаў і, у прыватнасці, пра братэрскія ўзаемаадносіны паміж беларусамі, чэхамі і славакамі. Яшчэ ў 1517—19 гг. Георгій Скарына менавіта ў Празе надрукаваў дваццаць дзве кнігі беларускага перакладу Біблії. Гэта быў прыклад ужо не толькі духоўных сувязей, а сапраўды працоўнага сяброўства. Нездарма ж чэшскія гісторыкі лічаць Георгія Скарыну адным з пачынальнікаў цесных сувязей паміж братнімі славянскімі нацыямі...

— Калі вы ўжо з газеты «Літаратура і мастацтва», — зазначыў Міхаіл Васільевіч, — і гаворку мы пачалі з першадрукара, дык спачатку і прыгадаем літаратурныя ўзаемаадносіны, якія любоўна песціліся і ўмацоўваліся на працягу стагоддзяў. Больш блізкія прыклады. Упершыню за межамі нашай краіны быў заўважаны дэмакратычны напрамак у творчасці Янкі Купалы іменна чэхаславацкімі дзеячамі. У часопісе «Славянскі пшэглед», які выдаваўся ў Празе, у 1911 годзе відны крытык А. Чэрны прыводзіў праграмны купалаўскі верш-маніфест «А хто там ідзе?» і падрабязна расказваў пра купалаўскую творчасць, знаёміў з літаратурнымі пошукамі маладога тады Якуба Коласа.

—Максіма Багдановіча таксама заўважылі чэхі раней, чым хто іншы за мяжой.

— Але. Там добра ведаюць яго паэзію і выступленні па пытаннях славянства, — гаворыць Міхаіл Васільевіч. — Яшчэ больш трывалымі сталі сувязі паміж пісьменнікамі нашай рэспублікі і Чэхаславакіі пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. У 1925 годзе Чэхаславакію наведалі Я. Купала, Ц. Гартны і М. Чарот. Там яны асабіста пазнаёміліся з дэмакратычнымі і пралетарскімі паэтамі. У 1927 годзе група беларускіх пісьменнікаў (Я. Купала, Ц. Гартны, М. Зарэцкі і М. Чарот) зноў пабывала на берагах Влтавы. Тады ж у часопісах і газетах чэхаславацкія крытыкі надрукавалі ўдумлівыя і змястоўныя артыкулы пра развіццё беларускай савецкай літаратуры. Пра нашых паэтаў і празаікаў пісала тады газета «Рудэ права» — орган ЦК Камуністычнай партыі Чэхаславакіі. А пасля да нас прыехаў вядомы вучоны і грамадскі дзеяч Здэнек Няедлы, які сустракаўся і гутарыў у Мінску з пісьменнікамі. У Чэхаславакіі шырока адзначаліся 20-гадовыя юбілеі літаратурнай дзейнасці Янкі Купалы і Цішкі Гартнага. Да гэтага часу нас хвалююць словы, якімі адкрываўся нумар часопіса «Новае Руско», прысвечаны цалкам Беларусі: «Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка — самастойная беларуская дзяржава ў рамках СССР,—якая гэта сапраўды значная з'ява на карце Еўропы!» Так пісаў у 1929 годзе прафесар З. Няедлы.

Грамадскасць нашай рэспублікі таксама здаўна цікавіцца літаратурным жыццём Чэхаславакіі. На кніжных паліцах беларускіх чытачоў пачэснае месца займаюць томікі і тамы раманаў і вершаў чэхаславацкіх аўтараў. М. Зарэцкі, К. Крапіва і М. Лужанін пазнаёмілі беларускіх чытачоў з «Прыгодамі ўдалага ваякі Швейка» Яраслава Гашэка. Вельмі маляўніча і сакавіта быў гэты твор перакладзены на беларускую мову такімі выдатнымі знаўцамі народнай гаворкі! Варта было б падумаць аб перавыданні гэтага перакладу. Тым больш, што інсцэніроўку «Швейка» мяркуюць паставіць у Акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы...

Дарэчы, аб тэатры. На афішах нашых тэатраў можна прачытаць назвы п'ес, якія належаць пяру чэхаславацкіх аўтараў: «Трэцяе жаданне» Блажэка, «Такое каханне» Кагоута, «Казачны домік» Стэгліка. А ў тэатрах братняй Чэхаславакіі ішла камедыя К. Крапівы «Хто смяецца апошнім». З вялікім поспехам выступаў на чэхаславацкай сцэне Дзяржаўны ансамбль танца БССР пад кіраўніцтвам А. Апанасенкі. Сярод гасцей, якіх мы чакаем з берагоў Влтавы і Дуная, ёсць дзеячы сцэны. Гэта артыст Штэфан Янчы з Браціславы і дырэктар пражскіх тэатраў Ота Орнаст.

— Каго яшчэ мы ўбачым сярод гасцей?

— З Брно прыедзе мастак Багуслаў Ягр, з Гаўлічкава Брода— выкладчык музыкі Гана Матаушкава, нашымі гасцямі будуць журналісты Йожына Бурашава, Браніслаў Хама, Уладзіміра Штрыцава і Антанін Тыц. Усе яны пабываюць на прадпрыемствах рэспублікі, у навучальных установах, у Палацы піянераў, у калгасах. Адбудуцца вечары, прысвечаныя савецка-чэхаславацкай дружбе. На іх выступяць нашы госці і члены Беларускага аддзялення Таварыства савецка-чэхаславацкай дружбы. У Мінску мы наладжваем фестываль лепшых чэхаславацкіх фільмаў, адкрываем кніжныя выстаўкі, арганізуем канцэрты, каб як мага больш шырока і ярка прадэманстраваць творчыя дасягненні братняга народа.

Зразумела, што не толькі ў галіне культуры ўмацоўваецца наша дружба. Для нас дарагія ўспаміны пра ваенны час, калі чэхі і славакі са зброяй у руках разам з намі змагаліся на фронце і ў партызанскіх атрадах супраць гітлераўцаў. Шмат беларусаў вялі барацьбу з фашысцкімі захопнікамі на зямлі Чэхаславакіі. Сяброўства, якое загартоўвалася ў сумеснай барацьбе, умацоўваецца і ў мірнай працы. Мабыць, дастаткова напомніць, што праз нафтаправод «Дружба» з нашай краіны ў Чэхаславакію паступіў першы мільён тон нафты. Што ж датычыць Беларусі, дык мы адпраўляем нашым сябрам трактары, камбайны, станкі, падшыпнікі і іншыя вырабы і сыравіну. А ў нас, як вы самі ведаеце, можна сустрэць вырабы славутых чэшскіх майстроў шкла, абутак з вядомай усяму свету фабрыкі «Світ», адзенне. Нашы спецыялісты высока адгукаюцца, у прыватнасці, аб абсталяванні для хімічнай прамысловасці, якое мы атрымоўваем з ЧССР.

Адбываюцца сустрэчы паміж прадстаўнікамі асобных прадпрыемстваў Беларусі і Чэхаславакіі. На Мінскім трактарным заводзе нашы рабочыя віталі спецыялістаў, сярод якіх быў вядомы пражскі зваршчык Атакар Влах, а ў Чэхаславакію ездзілі нашы землякі — наватары вытворчасці. Пошта прыносіць канверты з маркамі ЧССР на Мінскі падшыпнікавы завод, на віцебскую фабрыку «КІМ», на дрэваапрацоўчы завод у Мінску і на іншыя прадпрыемствы, якія падтрымліваюць сталыя сувязі з прамысловымі прадпрыемствамі Чэхаславакіі.

Наша Беларускае аддзяленне Таварыства савецка-чэхаславацкай дружбы існуе з мая 1961 года. Мы ўжо сёе-тое зрабілі, каб пазнаёміць грамадскасць рэспублікі з тым, як нашы чэхаславацкія сябры будуюць сацыялізм у сваёй краіне. Аддзяленні таварыства створаны ў калгасе «17 верасня» Нясвіжскага раёна, у Гомельскім інстытуце інжынераў чыгуначнага транспарту, на Мінскім заводзе аўтаматычных ліній і ў іншых калектывах. Нашы госці ў Дні чэхаславацкай культуры, якія будуць праходзіць з 14 па 20 лістапада, наведаюць і гэтыя аддзяленні. Сустрэчы з прадстаўнікамі краіны, якая ўпэўнена будуе падмурак камунізма, будуць своеасаблівым святам для ўсіх нас.

«Калі ласка, дарагія сябры!» — ад сэрца гаворым мы, чакаючы прыезду гасцей.

**Б. БАРЫСАЎ.**

# ВЯЛІКАЕ ЯДНАННЕ ПАРТЫІ І НАРОДА



Масква. 7 лістапада 1962 года. Святкаванне 45-й гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Прадстаўнікі працоўных на Краснай плошчы.

Фота В. СОБАЛЕВА і В. ЯГОРАВА. ТАСС.

## У КРАМЛЁЎСКІМ ПАЛАЦЫ З'ЕЗДАЎ

Радаснае, светлае свята прыйшло на неабдымную савецкую зямлю. У росквіце сваёй магутнасці сустракае краіна 45-ю гадавіну Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Да гэтага дня рыхтаваліся мільёны і мільёны працаўнікоў. З індустрыяльных прадпрыемстваў і будоўляў, з калгасных і саўгасных палёў, з раёнаў і гарадоў ідуць радасныя весткі.

Год назад з трыбуны XXII з'езда КПСС, які прыняў велічную праграму пабудовы камуністычнага грамадства, прагучаў заклік да ўпартай, самаадданай работы. І народ цяпер з гонарам падводзіць вынікі слаўных спраў.

Непаўторная ў сваім яркім убранні ззяючая мірыядамі агнёў сталіца нашай Радзімы. Вечарам 6 лістапада тысячы людзей прыйшлі ў Крамлёўскі Палац з'ездаў. Тут сабраліся прадстаўнікі некалькіх пакаленняў: старыя бальшавікі, якія прайшлі праз горан трох рэвалюцый, удзельнікі кастрычніцкіх баёў, і тыя, хто са зброяй у руках абараняў маладую Савецкую Рэспубліку, хто пазней умацоўваў эканамічную магутнасць СССР, змагаўся на франтах Вялікай Айчыннай вайны, хто цяпер аддае свае веды і сілы будаўніцтву камунізма.

Залу запоўнілі рабочыя сталічных прадпрыемстваў, члены брыгад і ўдарнікі камуністычнай працы, наватары вытворчасці, працаўнікі сельскай гаспадаркі Падмаскоўя, вучоныя, інжынеры, тэхнікі, дзеячы культуры, воіны Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту, студэнты. Сярод прысутных — дэпутаты Вярхоўных Саветаў СССР і Расійскай Федэрацыі, міністры, кіраўнікі цэнтральных ведамстваў і ўстаноў. Прысутнічаюць шматлікія замежныя дыпламаты, госці з розных краін.

На ўрачыстым пасяджэнні прысутнічалі старшыня Камуністычнай партыі Іспаніі Даларэс Ібаруры, генеральны сакратар Партугальскай камуністычнай партыі Алвара Куньял, старшыня ЦК Камуністычнай партыі Нідэрландаў Пауль дэ Граот, дэлегацыя прадстаўнікоў Цэнтральнага блоку дэмакратычных партый і масавых арганізацый Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі на чале са старшынёй Народнай палаты ГДР Іяганесам Дзікманам, дэлегацыя Таварыства карэйска-савецкай дружбы на чале з членам ЦК Працоўнай партыі Карэі, галоўным рэдактарам газеты «Надон Сінмун» Хо Сок Сонам.

Бурныя апладысменты ўспыхнулі ў зале, калі ў прэзідыуме з'явіліся таварышы Л. І. Брэжнеў, Г. І. Воранаў, А. П. Кірыленка, Ф. Р. Казлоў, А. М. Касыгін, О. В. Куусінен, Д. С. Палянскі, М. С. Хрушчоў, В. В. Грышын, П. Н. Дземічаў, Л. Ф. Ільічоў, Б. М. Панамароў.

У прэзідыуме знаходзіліся старэйшыя члены Камуністычнай партыі Ф. Н. Пятроў, А. В. Арцюхіна, І. Г. Батышаў, Л. А. Фоціева, касманаўты Ю. А. Гагарын, Г. С. Цітоў, А. Р. Ніколаеў, П. Р. Паповіч.

Урачыстае пасяджэнне, прысвечанае святкаванню 45-й гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, адкрывае першы намеснік старшыні выканаўчага камітэта Маскоўскага гарадскога Савета дэпутатаў працоўных А. М. Калашнікаў.

Слова для даклада атрымлівае член Прэзідыума Цэнтральнага Камітэта КПСС, першы намеснік Старшыні Савета Міністраў СССР А. М. Касыгін.

Дакладчык гаворыць аб веліччы подзвігу, здзейсненага ў кастрычніку 1917 года расійскімі рабочымі і сялянамі, аб тых велізарных зменах, якія адбыліся з таго часу на нашай планеце. Ён адзначае, што Кастрычніцкая рэвалюцыя праклала ўсяму чалавецтву прамую дарогу да камунізма. Звыш мільярда людзей цяпер будуюць новае жыццё на аснове марксізма-ленінізма. Склалася магутная непераможная садружнасць сацыялістычных краін. Сацыялізм выйшаў на сусветную арэну, поўны сіл і веры ў сваю будучыню. Сёння мы з'яўляемся сведкамі крушэння каланіяльнай сістэмы, яе канчатковага краху.

Апошні раздзел даклада прысвячаецца важнейшым праблемам міжнароднага становішча, барацьбе Савецкага ўрада за мір і бяспеку народаў.

Пад бурную авацыю прысутных А. М. Касыгін абвяшчае здравіцы ў гонар 45-й гадавіны Кастрычніка, вялікага савецкага народа — будаўніка камунізма, у гонар працвітання магутнай садружнасці сацыялістычных народаў, Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, пераможнага вучэння марксізма-ленінізма.

Урачыстае пасяджэнне аб'яўляецца закрытым. Пераможна гучыць Гімн Савецкага Саюза.

Пасля перапынку для ўдзельнікаў вечара быў дадзены святочны канцэрт.

**ТАСС.**

## УРАЧЫСТАЕ ПАСЯДЖЭННЕ Ў МІНСКУ

Сорак пяты раз, разам з усім савецкім народам урачыста і радасна адзначаюць працоўныя Беларусі слаўную гадавіну Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. У дружнай сям'і брацкіх народаў Савецкага Саюза беларускі народ самаадданы працуе над ажыццяўленнем вялікіх планаў, намечаных партыяй Леніна. Паспяхова завершана першая палавіна сямігодкі. Значна павялічыўся аб'ём валавой прадукцыі прамысловасці. Многія прадпрыемствы дасягнулі ўзроўню вытворчасці, прадугледжанага на 1965 год. Звыш 700 цэхаў, каля 7 тысяч брыгад носяць званне калектываў камуністычнай працы. Пэўныя поспехі дасягнуты ў развіцці сельскай гаспадаркі.

Велічныя нашы перамогі, грандыёзны размах здзяйсненняў, неўміручы ў вяках подзвіг савецкіх людзей — рабочых, сялян, інтэлігенцыі, самаадданых працаўнікоў, гарачых энтузіястаў камуністычнага пераўтварэння Радзімы.

Выключна прыгожая ў пярэдадзень вялікага свята Кастрычніка сталіца Савецкай Беларусі. Над будынкамі горда развяваюцца дзяржаўныя флагі Саюза ССР і Беларускай ССР, усюды партрэты Ул. І. Леніна, кіраўнікоў Камуністычнай партыі і Савецкага ўрада, плакаты, лозунгі і транспаранты.

У святочным убранні Тэатр оперы і балета. У глыбіні сцэны — скульптурны партрэт Ул. І. Леніна. У яркім асвятленні пражэктараў ззяюць лічбы «1917—1962».

Ля баявых сцягаў застыла ганаровая варта.

Глядзельную залу запоўнілі рабочыя, інжынеры і тэхнікі, дзеячы навукі і культуры, партыйныя, савецкія, прафсаюзныя і камсамольскія работнікі, воіны Савецкай Арміі.

17 гадзін. За сталом прэзідыума займаюць месцы кіраўнікі Кампартыі і ўрада Беларусі, прадстаўнікі прадпрыемстваў рэспублікі, вучоныя, кампазітары, пісьменнікі.

Урачыстае пасяджэнне Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў працоўных сумесна з прадстаўнікамі партыйных, грамадскіх арганізацый і воінскіх часцей, прысвечанае 45-й гадавіне Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, адкрывае старшыня выканкома Мінскага гарсавета В. І. Шарапаў.

Аркестр выконвае Дзяржаўныя гімны Саюза ССР і Беларускай ССР.

Пад бурныя апладысменты прысутных выбіраецца ганаровы прэзідыум у саставе Прэзідыума ЦК КПСС на чале з М. С. Хрушчовым.

З дакладам аб 45-й гадавіне Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі выступіў сакратар ЦК КПБ В. Ф. Шаура.

Урачыстае пасяджэнне аб'яўляецца закрытым. Аркестр выконвае Дзяржаўныя гімны Саюза ССР і БССР.

У заключэнне адбыўся вялікі канцэрт.

**БЕЛТА.**

## ПАРАД І ДЭМАНСТРАЦЫЯ НА КРАСНАЙ ПЛОШЧЫ

7 лістапада. Красная плошча сталіцы як заўсёды стала ў гэты дзень цэнтрам усенароднага свята. На яе гранітных трыбунах сабраліся дзяржаўныя і партыйныя дзеячы, рабочыя і калгаснікі, прадстаўнікі навукі і культуры. Тут жа замежныя рабочыя і прафсаюзныя дзеячы, якія з'ехаліся з усіх кантынентаў. Прысутнічаюць члены дыпламатычнага корпуса, ваенныя аташэ пасольстваў.

Прысутныя на свяце горача вітаюць таварышаў Л. І. Брэжнева, Г. І. Воранава, А. П. Кірыленку, Ф. Р. Казлова, А. М. Касыгіна, О. В. Куусінена, Д. С. Палянскага, М. С. Хрушчова, В. В. Грышына, П. Н. Дземічава, Л. Ф. Ільічова, Б. М. Панамарова, якія падняліся на цэнтральную трыбуну Маўзалея.

На правым крыле Маўзалея—выдатныя военачальнікі: Маршалы Савецкага Саюза, маршалы родаў войск, адміралы і генералы Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту.

Роўна дзесяць. У адкрытай машыне з варот Спаскай вежы выязджае на плошчу прымаючы парад Міністр абароны СССР Маршал Савецкага Саюза Р. Я. Маліноўскі. Ён аб'язджае войскі, віншуе іх са святам. То тут, то там пракатваецца ў адказ магутнае «ура!»

Затым Міністр абароны падымаецца на трыбуну Маўзалея і гаворыць прамову.

Мінута зацішша і пачынаецца ўрачысты марш войск. Бездакорную выпраўку дэманструюць слухачы ваенных акадэмій, курсанты — маракі і пагранічнікі, выхаванцы Суворыўскіх вучылішчаў.

...З боку Гістарычнага музея чуваць рокат матораў. Пачынаецца дэманстрацыя магутнасці баявой тэхнікі нашых Узброеных Сіл.

Ва ўяўленні паўстаюць былыя паходы, бітвы, калі на бронемашынах і бронетранспарцёрах праносяцца гвардзейцы праслаўленай Таманскай мотастралковай дывізіі імя М. І. Калініна. Іх машыны не ведаюць перашкод ні на сушы, ні на вадзе. На вялікай скорасці

(Заканчэнне на 2-й стар.)

## ПАВЕДАМЛЕННЕ АБ СКЛІКАННІ ПЛЕНУМА ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА КПСС

**ЦК КПСС прыняў рашэнне склікаць чарговы Пленум Цэнтральнага Камітэта КПСС 19 лістапада 1962 года.**

**На абмеркаванне Пленума ЦК уносіцца пытанне аб паляпшэнні партыйнага кіраўніцтва прамысловасцю, будаўніцтвам і сельскай гаспадаркай. Дакладчыкам зацверджан таварыш М. С. Хрушчоў.**

**Для ўдзелу ў абмеркаванні гэтага пытання на Пленум ЦК запрашаецца партыйны, савецкі і гаспадарчы актыў рэспублік, краёў і абласцей.**

## Узнагароджанне польскіх артыстаў

На працягу месяца ў Мінску паспяхова выступаў таленавіты калектыў артыстаў Польскай Народнай Рэспублікі «Цырк Варшава». Мінчане з вялікай цікавасцю прагледзелі праграму нашых сяброў.

Калегія Міністэрства культуры Беларускай ССР і прэзідыум Беларускага рэспубліканскага камітэта прафсаюза работнікаў культуры адзначылі вялікую работу па мастацкаму абслугоўванню працоўных Мінска і ўзнагародзілі калектыў артыстаў «Цырк Варшава» Ганаровай граматай Міністэрства культуры БССР і БРК прафсаюза работнікаў культуры.





Мінск, 7 лістапада 1962 г. Калоны працоўных на Цэнтральнай плошчы.

Фота Ул. КРУКА.

## У КІНАФІКАТАРАЎ МАГІЛЁЎШЧЫНЫ

Аддзелу кінафікацыі Магілёўскага абласнога ўпраўлення культуры прысуджаны пераходны Чырвоны сцяг і першая прэмія Міністэрства культуры і Беларускага рэспубліканскага камітэта прафсаюза работнікаў культуры. Магіляўчане занялі першае месца па выніках сацыялістычнага спаборніцтва за трэці квартал.

Квартальны план і план 9 месяцаў работнікі кінафікацыі Магілёўскай вобласці перавыканалі па ўсіх паказчыках. За 9 месяцаў звыш плана дадзена 34 тысячы сеансаў, абслужана 804 тысячы гледачоў.

Лепшых вынікаў дабіліся кінафікатары Клімавіцкага раёна. Калектыву работнікаў кінасеткі раёна прысвоена званне калектыву камуністычнай працы. Гэтае званне клімаўчане носяць ужо два гады. На працягу 9 год яны перавыконваюць гадавыя планы. Значна павялічаны план 9 месяцаў гэтага года работнікі кінафікацыі выканалі на 141 працэнт. Спаборнічаючы за дастойную сустрэчу 45 гадавіны Кастрычніка, клімаўчане перагледзелі свае абавязацельствы і вырашылі выканаць гадавы план не да 5 снежня, як абяцалі раней, а да 7 лістапада. Прыклад у спаборніцтве паказвае ўдарнік камуністычнай працы Мікалай Старавойтаў — адзін са старэйшых кінафікатараў вобласці. Гадавы план ён выканаў яшчэ да 5 кастрычніка.

Ужо больш 60 кінамеханікаў вобласці выканалі гадавы план.

У Магілёўскай вобласці шмат робіцца для паляпшэння абслугоўвання гледачоў. У Шклове, Мсціслаўлі, Глуску, Кіраўску, Крычаве адкрыты шырокаэкранныя кінатэатры на 300 — 400 месц кожны. У 9 раённых цэнтраў у кінатэатрах устаноўлена навейшая апаратура, 220 сельскіх кінаустановак забяспечаны стацыянарным абсталяваннем.

